ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№8 (101) жнівень 2019 год
CATHOLICNEWS.BY

# Віцебская дыяцэзія святкуе сваё 20-годдзе

**У Браславе прайшлі ўрачыстасці ў гонар Маці Божай Валадаркі Азёраў**

Стар. 2

**Касцёл у Росіцы стаў дыяцэзіяльным санктуарыем**
*Стар. 4, 7*

**Пераможцам V Парафіяды стала Варапаеўская парафія**
*Стар. 8*

**Парафіяльны адпуст адзначылі ў Чашніках**
*Стар. 6*

**Сустрэча "Маргарытак" з біскупам у Удзеле**
*Стар. 5*

**Больш матэрыялаў чытайце на сайце**
Catholicnews.by



# Віцебская дыяцэзія святкуе сваё дваццацігоддзе

## У Браславе прайшлі ўрачыстасці ў гонар Маці Божай Валадаркі Азёраў

**Кульмінацыяй урачыстасцяў 17 жніўня стала галоўная Імша, якая прайшла на палявым алтары перад касцёлам.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*



Гэта алтар быў пабудаваны дзесяць гадоў таму, калі адбылася каранацыя абраза Маці Божай Валадаркі Азёраў. Таму сёлета ў Віцебскай дыяцэзіі адзначаецца двайны юбілей: дваццацігоддзе ўтварэння дыяцэзіі і дзесяцігоддзе каранацыі абраза Маці Божай.

Галоўная Імша распачалася аб адзінаццатай гадзіне ўрачыстай працэсіяй з касцёла да палявога алтара. У галаве працэсіі знаходзілася копія абраза Маці Божай Валадаркі Азёраў.

Спачатку ўсіх вернікаў і ганаровых гасцей прывітаў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч. Ён зачытаў прывітальнае слова Апостальскага нунцыя арцыбіскупа Габара Пінтэра, які не змог асабіста ўдзельнічаць у свяце. Потым іерарх павіншаваў арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, Старшыню Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі, Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага, з трыццацігоддзем біскупскай сакры. Віцебскі ардынарый папрасіў яго ўзначаліць гэту святую Імшу.

"У чарговы раз сталіца азёрнага краю – старажытны Браслаў – напаўняецца вернікамі, сярод якіх шмат пілігрымаў", – адзначыў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Ён падкрэсліў, што Віцебская дыяцэзія самая маладая ў Беларусі, але і самая дынамічная.

На пачатку гаміліі іерарх адзначыў поспехі віцебскага Касцёла. Ёсць, між іншым, два выбітныя прадстаўнікі дыяцэзіі: кс. Аляксандр Амяльчэня, які з'яўляецца дырэктарам беларускай секцыі Ватыканскага радыё, і кс. Аляксандр Рагіня, які зараз працуе ў дыпламатычнай місіі Святога Пасаду.

Далей іерарх засяродзіўся на тэме сям'і і тых пагрозах, якія нясе ёй сучасны свет. Менавіта сям'я з'яўляецца падмуркам грамадства і Касцёла. А сёлета ўвесь Касцёл адзначае Год сям'і.

Не абмінуў крызіс і нашу краіну, якая займае зараз пятае месца ў свеце і трэцяе ў Еўропе па самагубствах. За год насельніцтва Беларусі скарацілася на 19 тысяч чалавек , а гэта амаль два такія гарады, як Браслаў. І дапамагчы пераадолець крызіс нам можа дапамагчы толькі Марыя, Якая сама давала добры прыклад сямейнага жыцця.

"Падчас нябачанага раней крызісу беларускай сям'і Марыя заклікае нас да будавання сямейнага жыцця на духоўных каштоўнасцях, на даверы Богу кожнай сям'і з яе радасцямі і смуткам. Яна як найлепшая Маці зможа выпрасіць у Бога цуд аздараўлення сям'і, калі мы толькі даверымся Яе апецы", – адзначыў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі.

Рака застаецца ракой пакуль цячэ, – сказаў іерарх, – птушка птушкай, пакуль ляціць, кветка кветкай, пакуль цвіце, а чалавек застаецца чалавекам, пакуль любіць бліжняга. А любоў найлепш праяўляецца якраз у сям'і, якая з'яўляецца падмуркам грамадства, дзяржавы і ў першую чаргу Касцёла.

Потым адбылася працэсія з дарамі. Іерарху паднеслі лілею як сімвал чысціні, герб біскупа Віцебскага, заплечнік і ружанец як сімвал пілігрымавання, віно, ваду і гостыю.

Напрыканцы Імшы ўсе вернікі разам з хорам праспявалі гімн "Цябе, Бога, праслаўляем", пасля чаго біскуп Алег Буткевіч зачытаў Акт прысвячэння ўсёй дыяцэзіі Маці Божай Валадарцы Азёраў.

На заканчэнне да прысутных звярнуліся генерал ордэна сальватарыянаў кс. Мільтон Зонта SDS з Бразіліі, прадстаўнікі абласной і раённай улады, а таксама амбасадар Польшчы ў Беларусі Артур Міхальскі.

Потым біскуп Алег Буткевіч папрасіў Мітрапаліта ўручыць памятныя дыпломы вернікам, якія ўнеслі значны ўклад у развіццё мясцовага Касцёла, і святарам, якія адзначаюць сёлета юбілеі святарскага пасвячэння.

Перад бласлаўленнем арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч яшчэ раз пажадаў поспехаў віцебскаму Касцёлу, заклікаў вернікаў і святароў не губляць той нябесны плашч, якім ахінае нас Марыя, а біскуп Алег Буткевіч запрасіў усіх на святкаванне ў наступным годзе, каторае адбудзецца ў Браславе 21-22 жніўня.





## Папа абнавіў склад Калегіі па цяжкіх кананічных злачынствах

**Папа прызначыў новых чальцоў Калегіі па цяжкіх кананічных злачынствах, якая дзейнічае пры Кангрэгацыі Веравучэння. Склад структуры змяняецца кожныя пяць гадоў.**

Новымі чальцамі Калегіі сталі: арцыбіскуп Філіпа Янонэ, біскуп Андрэа Мільявака, біскуп Эджыдзія Міраголі, арцыбіскуп Карла Рабэрта Марыя Рэдаэлі, арцыбіскуп Артур Рошэ, біскуп П'ер Антоніа Паванэла і арцыбіскуп Кірыл Васіль. Папа прызначыў таксама замяшчальным чальцом структуры арцыбіскупа Хасэ Луіса Малагана.

Калегія па цяжкіх кананічных злачынствах пры Кангрэгацыі Веравучэння была заснаваная Францішкам у лістападзе 2014 г. У яе кампетэнцыю ўваходзіць разгляд кананічных злачынстваў сур'ёзнага характару, якія былі здзейненыя супраць маралі або адносяцца да злоўжыванняў у здзяйсненні сакрамантаў, пра што гаворыцца ў 1-6 параграфах Апостальскага ліста Яна Паўла II "Sacramentorum Sanctitatis Tutela".

Кананічныя правапарушэнні, зарэзерваваныя выключна для разгляду Кангрэгацыяй Веравучэння, датычаць чынаў, скіраваных супраць святасці Найсвяцейшага Сакраманту, сакраманту Эўхарыстыі і сакраманту пакаяння. Таксама да кампетэнцыі ватыканскай дыкастэры адносяцца цяжкія злачынствы супраць маральнасці, напрыклад, злоўжыванні адносна непаўналетніх.

*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

## Крыштальны сабор. Фотафакт

**Святыня знаходзіцца ў горадзе Гардэн-Гроу, штат Каліфорнія. Сёння гэта сабор дыяцэзіі Орынджа.**

Будаўніцтва храма пачалося ў 1977 годзе і працягвалася тры гады. Спачатку ён належаў да Рэфармацкай царквы Амерыкі, і з улікам пагрозы банкруцтва ў сярэдзіне лістапада 2011 года святыня была прададзена рымска-каталіцкай дыяцэзіі за 57,5 мільёна долараў.

З таго часу святыня не змянялася звонку, але знутры была перароблена для патрэбаў вернікаў. У храме могуць размясціцца каля 3000 чалавек. Варта адзначыць, што менавіта ў Крыштальным саборы знаходзіцца адзін з найбуйнейшых музычных інструментаў у свеце – арган Хейзала Райта.

*Паводле credo.pro*



# Новым чальцом Папскай акадэміі навук стаў Нобелеўскі лаўрэат



**22 ліпеня 2019 г. Святы Айцец прызначыў чальцом Папскай акадэміі навук 56-гадовага нямецкага фізіка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па хіміі за 2014 г., прафесара Штэфана Вальтэра Хэля.**

Прафесар Штэфан Хэль – спецыяліст у галіне флюарэсцэнтнай мікраскапіі. Вучыўся ў Гельдэрбергскім універсітэце ў ФРГ, дзе атрымаў доктарскую ступень па фізіцы. Навуковыя даследаванні праводзіў на факультэце медыцынскай фізікі ва ўніверсітэце Турку ў Фінляндыі і Оксфардскім універсітэце ў Вялікабрытаніі.

З 2002 г. – дырэктар Інстытута біяфізічнай хіміі таварыства Макса Планка ў Гётынгене, а з 2017 г. – Інстытута медыцынскіх даследаванняў таварыства Макса Планка ў Гайдэльбергу. Кіраўнік аддзела аптычнай нанаскапіі ў Нямецкім цэнтры па даследаванні раку. Жанаты, выхоўвае чатырох дзяцей.

Адкрыцці прафесара Хэля ў галіне мікраскапіі і іх значэнне для навукі, у прыватнасці для натуральных навук і медыцыны, у 2006 г. былі адзначаны штогадовай "Нямецкай прэміяй будучыні". У 2014 г. разам з двума іншымі вучонымі атрымаў Нобелеўскую прэмію па хіміі за стварэнне флюарэсцэнтнага мікраскопа, які дазволіў зрабіць шмат адкрыццяў у іншых галінах навукі.

Папская акадэмія навук была заснаваная ў 1936 г. з мэтай даследавання матэматычных, фізічных і натуральных навук і звязаных з імі тэалагічных пытанняў. На сённяшні дзень у яе склад уваходзяць каля 80 навукоўцаў розных веравызнанняў з розных краін свету, сярод якіх 35 Нобелеўскіх лаўрэатаў.

*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# В Нагасаки возвращен крест, переживший атомную бомбардировку

**Католическая община Нагасаки получила крест, некогда находившийся в городском соборе и переживший атомную бомбардировку, сообщает "Асахи Симбун". Все эти годы реликвия хранилась в США, а 7 августа была торжественно вручена архиепископу Нагасаки Иосифу Мицуаки Таками.**

9 августа 1945 атомная бомба упала всего в 500 метрах от собора Непорочного зачатия Девы Марии. Все находившиеся в этот момент в храме верующие погибли. В октябре того же года в Нагасаки был командирован американский пехотинец Уолтер Хук, католик по вероисповеданию. Во время своего пребывания в городе Хук подружился с епископом Аиджиро Ямагучи. Однажды, гуляя по разрушенному городу, друзья обнаружили в руинах собора деревянный крест, и Ямагучи подарил его Хуку, а тот отправил в Нью-Йорк своей матери. Вскоре пехотинец был переведен служить в другое место, но переписку с японским прелатом поддерживал долгие годы. Хук умер в 2010 году в возрасте 97 лет.

В 1982 Хук подарил крест Центру мира при колледже Уилмингтон в Огайо, где реликвия была частью антивоенной экспозиции. Некоторое время назад Таня Маус, директор центра, решила, что крест нужно передать католикам Нагасаки. Получив от нее письмо, сотрудники японского собора начали искать свидетельства об артефакте в старых епархиальных газетах, и нашли подтверждение тому, что крест находился на алтаре собора в тридцатые годы.

"Прекрасно, что этот крест уцелел, – заявил во время церемонии передачи креста архиепископ Таками. – Жертвы атомной бомбы умрут, а крест останется свидетелем того, что случилось в Нагасаки. Он напоминает нам, на какие зверства способны люди, и в то же время дает нам надежду".

Нагасаки, в порт которого в средние века прибывали португальские корабли, был центром католицизма в Японии. До 1945 в городе насчитывалось 12 000 католиков, из них более восьми тысяч погибло в результате атомной бомбардировки. Погибли бабушка и тетя архиепископа Таками, а сам прелат подвергся облучению, находясь в утробе матери. Как вспоминает прелат, все детство мать рассказывала ему, каким прекрасным был разрушенный собор (новое здание построили в 1959 году).

В ноябре текущего года Японию посетит Папа Римский Франциск. В программе его визита – посещение Хиросимы и Нагасаки.

*Благовест-инфо*



# Касцёл у Росіцы – Дыяцэзіяльны Санктуарый Росіцкіх пакутнікаў

**Падчас сёлетніх летніх урачыстасцяў у Росіцы, якія праходзілі 2-3 жніўня, у 20-ю гадавіну беатыфікацыі а. Юрыя Кашыры MIC і а. Антонія Ляшчэвіча MIC, генеральным вікарыем кс. Францішкам Кіселем быў абвешчаны дэкрэт біскупа Віцебскага Алега Буткевіча аб устанаўленні ў парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Росіцы Віцебскай дыяцэзіі Дыяцэзіяльнага Санктуарыя Росіцкіх пакутнікаў.**

**Марына Сінкевіч**





Адказваючы на просьбу а. Чэслава Курэчкі MIC, вышэйшага кіраўніцтва ордэна айцоў-марыянаў і вернікаў парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Росіцы; улічваючы меркаванне святароў Віцебскай дыяцэзіі, а таксама факт актыўнага развіцця пілігрымкавага руху ў Росіцу і моцную патрэбу ў абвяшчэнні Божага слова і ўдзяленні святых сакрамантаў пілігрымам, быў падпісаны дакумент.

Віцебскі ардынарый уручыў дэкрэт правінцыялу ордэна айцоў-марыянаў правінцыі Божага Провіду ў Варшаве а. Томашу Навачэку MIC.

Згодна са Статутам Дыяцэзіяльнага Санктуарыя, вернікі, якія прыбываюць у Санктуарый у арганізаванай пілігрымцы, могуць атрымаць поўны адпуст за наведванне Санктуарыя на звычайных ўмовах (быць у стане асвячальнай ласкі, прыняць Святую Камунію, а таксама адсутнасць прывязанасці да якога-небудзь граху і малітва ў інтэнцыі Святога Айца, адмаўленне ў Санктуарыі малітваў “Веру ў Бога”, “Ойча наш”). Вернікі, якія пілігрымуюць індывідуальна, могуць атрымаць такі адпуст адзін раз на год у любы дзень на іх выбар. Да кусташа і душпастыраў належыць абавязак інфармавання вернікаў пра магчымасці і ўмовы атрымання адпусту.

Хворыя, якія пілігрымуюць да Санктуарыя, могуць папрасіць пра сакрамант намашчэння, які трэба ім ўдзяліць згодна з канонамі Кодэкса Кананічнага Права і Рымскага Рытуала. Усе святары, якія нясуць паслугу ўдзялення сакраманту пакаяння і паяднання ў Санктуарыі, на моцы ўдзялення ўлады біскупа Віцебскага, маюць права вызваляць ад экскамунікі latae sententiae, якая была атрымана ў выніку зробленага аборту (кан. 1398).

# Дзень малітоўнага засяроджання для легіянераў Віцебскай парафіі Езуса Міласэрнага ў Лепелі

**12 жніўня ў парафіі Святога Казіміра ў Лепелі адбыўся дзень засяроджання для ўдзельнікаў апостальскага руху “Легіён Марыі” з Віцебскай парафіі Езуса Міласэрнага. Спатканне было прысвечана тэме “Разважлівасць і пакора Марыі”.**

**дыякан Алег Зямчонак**



Удзел у сустрэчы прынялі восем легіянераў разам з духоўным кіраўніком пробашчам парафіі Езуса Міласэрнага ксяндзом-канонікам Валерыем Орсікам.

Спатканне распачалося малітвай да св. Казіміра. Пасля адбылася святая Імша з канферэнцыяй, падчас якой святар звярнуў увагу на важнасць штодзённай малітвы ў нашым жыцці да Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама падкрэсліў неабходнасць “духоўнага заплечча” для сябе і іншых.

Потым адбылася адарацыя, падчас якой асаблівым чынам праз малітву ўшаноўвалі Багародзіцу. Удзельнікі спаткання мелі магчымасць праслухаць канферэнцыі на тэмы “Маці Божая, Якая развязвае вузлы людскога жыцця праз давер Яе Сыну”, “Марыя – узор нашага жыцця ў духу пакоры”. Цікава, што на працягу дня ўсе ўдзельнікі захоўвалі цішыню і ўвогуле паміж сабою не размаўлялі.

Падчас працы ў групах легіянеры разважалі на тэму “Апостальства служэння”, дзе дзяліліся сведчаннямі веры і вопытам сваёй працы, а таксама выбіралі далейшы кірунак свайго служэння.

Праграмай быў прадугледжаны супольны абед, падчас якога чыталіся ўрыўкі са Святога Пісання. Пасля абеду ўдзельнікі мелі час на прыватную малітву, каб больш дасканала паразважаць у цішыні над пачутымі словамі. Напрыкацы адарацыі была супольная малітва Вяночкам да Божай Міласэрнасці і бласлаўленне Найсвяцейшым Сакрамантам. Удзельнікі падзякавалі Богу і духоўнаму кіраўніку за магчымасць духоўных практыкаванняў, а таксама за ўмацаванне ў пакліканні легіянера.

Важна адзначыць, што парафія Езуса Міласэрнага ў Віцебску мае дзевяць актыўных чальцоў “Легіёну Марыі”, а таксама мае яшчэ некалькі дапаможных вернікаў, якія не ўдзельнічаюць непасрэдна ў апостальскай працы, а толькі моляцца.

Легіянеры Віцебскай парафіі Езуса Міласэрнага наведваюць хворых у абласной лякарні і анкалагічным дыспансеры, састарэлых, дзяцей у дзіцячых дамах і людзей з абмежаванымі магчымасцямі, дапамагаюць у прыбіранні касцёла, а таксама дзеляцца верай з тымі, хто яшчэ не ведае Пана Бога. Кожны тыдзень удзельнікі Легіёну збіраюцца са сваім духоўным кіраўніком для сумеснай малітвы.

# Сустрэча “Маргарытак” з біскупам Алегам Буткевічам адбылася ў Удзеле

**3 жніўня ў касцёле Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Удзеле прайшла Другая агульнадыяцэзіяльная сустрэча ўдзельнікаў апостальскага руху “Маргарытка”. Прыбылі вернікі з Глыбокага, Шаркаўшчыны, Браслава, Германавіч, Дзеркаўшчыны і Удзела.**

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Спатканне распачалося адарацыяй Найсвяцейшага Сакраманту і ружанцовай малітвай першай суботы месяца. Святую Імшу ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Ардынарый прывітаў удзельнікаў такой неабходнай малітвы, якая сваёй моцай праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі падтрымлівае святароў.

“Мы бачым, наколькі складана маладому чалавеку адважыцца і адказаць на Божы голас, які кліча яго да Божай службы. Узнікаюць розныя перашкоды, мы пачынаем шукаць прычыны і зноў упіраемся ў сям’ю. Адкуль бярэцца пакліканне? З сям’і. Гэтая супольнасць сёння таксама перажывае пэўны крызіс. Развод маладых сем’яў, недахоп атмасферы, у якой з самага пачатку магло б узрастаць пакліканне, – падкрэсліў іерарх і заклікаў да далейшай малітвы. – Таму ў гэтай малітве, якую мы скіроўваем да Бога праз заступніцтва Маці Божай, просім пра трываласць на дарозе, на якую стаў малады чалавек. І каб тыя, хто адказаў Богу “так” на гэты заклік, маглі на сваёй дарозе вытрываць, але не проста вытрываць, а быць добрымі распарадчыкамі Божых таямніцаў. Бо свет сёння вельмі небяспечны для душы чалавека”.

На заканчэнне Імшы пробашч Удзелаўскай парафіі а. Яраслаў Банасяк заахвоціў прысутных далучыцца да малітвы-прысвячэння Беззаганнаму Сэрцу Марыі сябе, сваёй сям’і, парафіі і месца працы, якую ўсе разам зачыталі. Святар запрасіў прыязджаць менавіта ў Удзела кожную першую суботу месяца, каб аднаўляць гэтае прысвячэнне. Вернікі з Шаркаўшчыны падзякавалі біскупу Алегу за магчымасць спаткацца чальцам апостальства і разам маліцца.

Пасля малітоўнай часткі ўсе чальцы руху змаглі падсілкавацца і паразмаўляць, а затым праслухалі канферэнцыю кс. Мікалая Ціхановіча, які паразважаў над тым, кім ёсць святар, і наблізіў разуменне святарства згодна з навучаннем касцёла.



# Адпустовая ўрачыстасць у Канстанцінаве

**15 жніўня ў Канстанцінаве Мядзельскага дэканата Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі адбылася парафіяльная ўрачыстасць – фэст з нагоды Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, чый тытул мае парафія.**

**Лілія Феакцістава**

Урачыстасць Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі адзначаецца ў нашай парафіі ўжо не адно стагоддзе, бо часам яе заснавання лічыцца 1793 год. Але на гэты раз адметнай рысай свята стала прысутнасць Яго Эксцэленцыі дапаможнага біскупа Гродзенскай дыяцэзіі Юзафа Станеўскага, які прыняў запрашэнне пробашча ксяндза Алега Мурзіча і разам з намі ўшаноўваў у малітвах Маці Хрыстову – Найсвяцейшую Панну Марыю, нашу заступніцу і апякунку. Удзел ва ўрачыстасці, як заўсёды, прыняў таксама і айцец Бэрнард Радзік, пробашч суседняй Нарачанскай парафіі святога Андрэя Апостала.

Сустракала парафія шаноўнага госця – Яго Эксцэленцыю ксяндза-біскупа – цёплым прывітальным словам, хлебам-соллю і прыгожымі кветкамі-ружамі.

На пачатку святой Імшы ксёндз-біскуп адзначыў важнасць гэтага свята, падзякаваў за запрашэнне і ўзначаліў цэлебрацыю. Калі ў часе святой Імшы іерарх прамаўляў Божае слова да вернікаў, у святыні ўсталявалася неймаверная цішыня і здавалася, што словы біскупа пранікаюць у кожны куточак душы прысутных. Пасля адбылася ўрачыстая працэсія вакол касцёла, якая закончылася спевам гімна “Цябе, Бога, праслаўляем!”

На заканчэнне святой Імшы пробашч парафіі ксёндз Алег, а таксама вернікі шчыра падзякавалі Яго Эксцэленцы за ўдзел ва ўрачыстасці і сардэчна пажадалі моцнага здароўя, разумення Божай волі, мудрых рашэнняў, любові і міласэрнасці да ўсіх людзей. Таксама пробашч выказаў удзячнасць усім вернікам і гасцям за ўдзел і за дар супольнай малітвы.

З цёплай усмешкай на твары іерарх удзяліў Божае бласлаўленне і выказаў свае пастырскія пажаданні. І якім жа было здзіўленне, калі біскуп Юзаф на развітанне заспяваў песню, якую прысвяціў усім матулям! Песня выклікала слёзы, бо, напэўна, кранула душу і сэрца кожнага прысутнага.

Так у малітвах і падзяках незаўважна праміналі дзве гадзіны. Урачыстасці спрыяла цёплае надвор’е. Пры касцёле размясцілі фотавыставу “Мінулае нашай парафіі ў фотаздымках”, якую з дапамогай парафіян арганізаваў пробашч ксёндз Алег. Тут можна было ўбачыць фотаздымкі з жыцця нашай парафіі нават яшчэ да верасня 1939 года: удзяленне шлюбу, хросту, Першай Камуніі; гады служэння і здымкі святароў, якія аддавалі хвалу Пану Богу ў нашай парафіі ад пачатку заснавання і да сучасных дзён. Дзякуючы стараннм парафіянкі Ганны Рамейкі прысутныя змаглі пачуць, якія гістарычныя даты адпавядаюць гэтым фотаздымкам.

# Чатыры сястры-салезіянкі аднавілі манаскія абяцанні ў Смаргоні

**5 жніўня ў парафіі Св. Міхала Арханёла ў Смаргоні маладыя сёстры-салезіянкі аднавілі свае манаскія абяцанні.**

Сярод іх былі с. Юлія Клявец FMA і с. Дар’я Еўтухоўская FMA, якія нясуць паслугу ў Беларусі, а таксама с. Наталля Іванова FMA і с. Хрысціна Кароль FMA, сёстры з Украіны.

Падчас святой Імшы, якую цэлебраваў пробашч парафіі кс. Алег Жураўскі SDB разам з кс. Артурам Ляшнеўскім SDB і кс. Паўлам Шчарбіцкім SDB, маладыя сёстры-салезіянкі ў прысутнасці настаяцельніцы візітатарыі “Усходняя Еўропа і Грузія” сястры Габрыэлі Родэ FMA ўрачыста аднавілі сваё “так” Богу, прамоўленае некалькі гадоў таму.

Падчас казання кс. Алег Жураўскі SDB звярнуў сваю ўвагу на тое, што Пан Бог – Сейбіт, Які выходзіць сеяць і сёння, таму маладым людзям патрэбная адвага, каб вырасціць пасеянае зерне, не заглушаючы яго пустазеллем.

Пасля святой Імшы і слоў віншавання ўсе прысутныя былі запрошаны на пачастунак.

*sdb.by*

*Фота:* ***Віялета Вайтко***



# Парафіяльнае свята адзначылі ў Чашніках

**Касцёл у Чашніках носіць тытул Перамянення Пана. Хоць свята выпадае на 6 жніўня, але адпуст тут адзначылі 3 жніўня.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*



Святкаванне пачалося са святой Імшы, якую канцэлебраваў кс. Аляксей Раманчук з Барысава разам з кс. Віталем Стрыгам з Крупак і кс. Мікалаем Ліпскім.

На пачатку Імшы мясцовы пробашч прывітаў святароў, вернікаў сваёй парафіі, а таксама тых, хто прыбыў на свята з іншых мясцін.

У гаміліі, якую прамовіў кс. Аляксей, святар паразважаў над значэннем Перамянення Пана ў нашым жыцці. А таксама ўзгадаў, што ў гэты дзень свае народзіны адзначае і кс. Мікалай Ліпскі, таму для Чашніцкай парафіі гэта можна лічыць двайным святам.

Пасля св. Імшы адбылася Эўхарыстычная працэсія вакол касцёла. Дарэчы, прайшла яна па новай дарожцы, якую намаганнямі пробашча і вернікаў удалося зрабіць да свята.

Як заўсёды, на фэстах у парафіях, дзе служыць ксёндз Мікалай, свята не абмяжавалася ўласна Імшой і працэсіяй – вернікаў чакаў яшчэ святочны канцэрт. Дарэчы, праводзіўся ён не толькі для вернікаў парафіі, а для ўсіх месцічаў і іншых гасцей.

Гледачоў сваімі талентамі парадавалі Лявон Вольскі з Паўлам Аракелянам, гурт "Рэха" з Андрусём Такіндангам, Аляксей Жбанаў, Сяржук Доўгушаў і калектыў Полацкага Дома культуры. Канцэрт працягваўся амаль тры гадзіны, але ніхто ад гэтага не стаміўся.

Напрыканцы імпрэзы кс. Мікалай Ліпскі падзякаваў і артыстам, і гледачам, і ўдзяліў бласлаўленне на развітанне.





## Біскупы ЗША супраць вяртання смяротнага пакарання

**Каталіцкія біскупы ЗША выступаюць супраць ініцыятывы, абвешчанай адміністрацыяй Дональда Трампа, па аднаўленні выканання найвышэйшай меры пакарання на федэральным узроўні.**

Старшыня Камітэта епіскапату па справах нацыянальнай справядлівасці і чалавечага развіцця біскуп Франк Дзьюэн заклікаў улады адмовіцца ад вяртання да смяротнага пакарання і прыняць да ўвагі вучэнне Касцёла ў гэтым пытанні.

У спецыяльнай заяве іерарх нагадаў прамову Францішка перад чальцамі амерыканскага кангрэса ў 2015 г., у якой Пантыфік, спасылаючыся на сваіх папярэднікаў, заклікаў да адмены смяротнага пакарання ва ўсім свеце, паколькі "справядлівае і неабходнае пакаранне" не можа "выключаць права на надзею і мэту, якой з'яўляецца выпраўленне". Біскуп Дзьюэн таксама звярнуўся да Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, што характарызуе смяротнае пакаранне як напад на непарушнасць і годнасць чалавека.

Біскупы ЗША ўжо 40 гадоў заклікаюць да адмены смяротнага пакарання. Яны выказалі гэта, між іншым, у заяве ад 2005 г. "Культура жыцця і смяротнае пакаранне".

Старшыня Камітэта епіскапату па справах нацыянальнай справядлівасці і чалавечага развіцця заклікаў федэральныя ўлады ўлічваць вучэнне Касцёла, а таксама доказы, якія паказваюць на няправільнае прымяненне смяротнага пакарання, і адмовіцца ад абвешчаных планаў.

Смяротнае пакаранне на федэральным узроўні ў ЗША не выкарыстоўваецца ўжо 16 гадоў. Гэты мараторый, аднак, быў неафіцыйным. Зараз абвешчана пра планы пакараць смерцю ў 2020 г. 5 з 62 федэральных зняволеных, прысуджаных да найвышэйшай меры.

Смяротнае пакаранне, якое існавала з пачатку заснавання ЗША, было адменена ў 1972 г. Аднак яго вярнулі праз чатыры гады. Незалежна ад федэральнага ўзроўню, найвышэйшая мера выкарыстоўваецца ў 29 з 50 штатаў.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# "Трэба ў Росіцы бываць не госцем": адбыліся ўрачыстасці з нагоды 20-годдзя беатыфікацыі Росіцкіх мучанікаў

**2 і 3 жніўня ў Росіцы ў 20-ю гадавіну беатыфікацыі айцоў-марыянаў Юрыя Кашыры і Антонія Ляшчэвіча шматлікія вернікі ўшанавалі памяць мучаніцкай смерці бласлаўлёных пакутнікаў.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Вось ужо два дзесяцігоддзі сустрэчы адбываюцца ў той самай святыні, дзе ў 1943 годзе святары Юрый і Антоні разам са сваімі вернікамі паказалі беларускай зямлі, што азначае любіць і перамагаць нянавісць дабром.

Мінула трыццаць гадоў, калі пасля доўгага перапынку ў касцёле зноў пачалі гучаць малітва і спеў. Першым, хто стаў аднаўляць жыццё касцёла ў Росіцы, быў а. Антоні Лось, старэйшы марыянін, былы выпускнік Друйскай гімназіі. У 1988 годзе ў сутарэнні храма адбыліся першыя патаемныя набажэнствы. На месцы былой спаленай стайні ў 1989 годзе ўсталявалі першы драўляны крыж як памяць пра ахвяраў трагедыі і духоўны подзвіг святароў-марыянаў.

Ахвяру росіцкіх святароў прызнаў гераічным увесь каталіцкі свет. 13 чэрвеня 1999 года ў Варшаве Папа Ян Павел II абвясціў акт беатыфікацыі і марыянскіх святароў сярод 108 ахвяраў Другой сусветнай вайны. Шматпакутная Росіца набыла сваіх заступнікаў перад Богам. Ужо 20 гадоў вернікі прыбываюць у гэтае месца, каб шукаць сапраўднага Божага натхнення для штодзённага жыцця.

Пакланіцца Росіцкім мучанікам сёлета прыбылі пешыя пілігрымкі з Друі (110 чалавек, 3 дні, 89 км) і Полацка (48 чалавек, 4 дні, 115 км), на роварах – з Барысава (8 асобаў, 5 дзён, 400 км) і Верхнядзвінска (14 асобаў, 36 км).

На парозе святыні пілігрымаў шчыра, з адкрытасцю і любоўю сустракаў а. Чэслаў Курачка MIC. А 18-й гадзіне распачалася св. Імша для пілігрымаў, якую цэлебраваў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Разам з ардынарыем Літургію канцэлебравалі правінцыял ордэна айцоў-марыянаў правінцыі Божага Провіду ў Варшаве а. Томаш Навачэк MIC, Апостальскі візітатар Грэка-Каталіцкай Царквы архімандрыт Сяргей Гаек і святары, якія прыбылі ў Росіцу.

На самым пачатку старшыня Верхнядзвінскага райвыканкама Ігар Марковіч выказаў словы прывітання і падзякі біскупу Алегу, святарам і ўсім пілігрымам, якія, нягледзячы на адлегласць і перашкоды, прыбылі ў Росіцу памаліцца праз заступніцтва бласлаўлёных айцоў-марыянаў. І з нагоды 75-годдзя вызвалення нашай краіны за высокае патрыятычнае выхаванне і ўвекавечванне памяці ахвяр фашызму юбілейным медалём быў адзначаны а. Чэслаў.



Пра цяжкасці прапаведавання сярод родных і знаёмых, што адбывалася і з Езусам у роднай Бацькаўшчыне, як піша апостал Мацвей у Евангеллі, паразважаў у гаміліі дк. Ілля Саўчанка MIC. "Часта Бога шукаем недзе далёка, наведваем санктуарыі. Але Бог блізка каля нас, Бог з намі. Прыбываючы ў гэту святыню і складаючы інтэнцыі на алтары, ці веру я, што Бог можа перамяніць маё жыццё, дакрануцца да сэрца? Ці проста прыходжу, бо падабаецца пілігрымаваць, і тут прыгожа?" – заклікаў паразважаць дк. Ілля і прыгадаў словы св. Аўгусціна: "Баюся блізкасці Бога, бо баюся не заўважыць Яго і прайсці міма". Ён скончыў сваю прамову вершам Рыгора Барадуліна, а затым дадаў, што "слова дом можна замяніць на Росіцу":

*Трэба ў Росіцы бываць часцей,*
*Трэба ў Росіцы бываць не госцем,*
*Каб душою не ачарсцвець*
*І не страціць святое штосьці.*

Працягам малітоўнага чування стаў Акафіст бласлаўлёным мучанікам Юрыю і Антонію ў выкананні вернікаў Грэка-Каталіцкай Царквы, затым ружанцовая малітва пілігрымаў з Друі і малітва праслаўлення пад кіраўніцтвам а. Міхаіла Цвячкоўскага.

Адным з галоўных пунктаў праграмы ўрачыстасці з'яўляецца св. Імша апоўначы і працэсія на Пляц мучаніцтва, дзе адбываецца малітва і адарацыя крыжа.

На пачатку Эўхарыстыі Генеральным вікарыем кс. Францішкам Кіселем быў зачытаны дэкрэт біскупа Віцебскага аб устанаўленні ў парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Росіцы Дыяцэзіяльнага Санктуарыя Росіцкіх пакутнікаў.

Пасля Імшы святары, законныя сёстры разам з вернікамі рушылі працэсіяй на месца мучаніцтва і смерці росіцкіх жыхароў разам з бласлаўлёнымі айцамі Юрыем і Антоніем.

"Мы праходзім праз дзясяткі дзвярэй. Адны з іх добра з вамі ведаем, адчыняем нават не задумваючыся, для іншых трэба пашукаць ключы. А яшчэ іншыя – самі перад намі адчыняюцца. Так выглядае сёння тэхнічны прагрэс. Ёсць дзверы, праз якія нам не ўдасца прайсці праз усё нашае жыццё. Але сярод гэтага мноства ёсць яшчэ адна брама. Брама, якая вядзе чалавека ў вечнае жыццё. Пра гэтую браму нам кажа Святое Пісанне. І гэтай брамай ёсць Езус Хрыстус", – прамовіў біскуп Алег і дадаў, што гэтым знакам тут з'яўляецца ўстаноўленая брама, якая калісьці вяла ў касцёл, а цяпер нагадвае, што выступае брамай, якая вядзе ў Валадарства Божае.





# Пераможцам V Парафіяды стала Варапаеўская парафія

**З 7 па 9 жніўня ў Віцебску праходзіла V Парафіяда дзяцей і моладзі Віцебскай дыяцэзіі. Сёлетняя яе тэма – "Разам да святасці!"**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **с. Дар'я Галубкова OV**, *фота*

Спаборніцтвы прысвячаліся 20-годдзю заснавання Віцебскай дыяцэзіі, 10-годдзю каранацыі абраза Маці Божай Браслаўскай і 5-годдзю дыяцэзіяльнай Парафіяды.

Адным з арганізатараў юбілейнай Парафіяды сёлета быў "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі. У другі дзень спаборніцтваў разам з выступамі каманд адбыўся міні-фестываль інклюзіўнага танца. У ім прынялі ўдзел інклюзіўныя калектывы з Першамайскага і Чыгуначнага ТЦСАН г. Віцебска, Студыя "Імпэт" пры "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі і сямейны інклюзіў-тэатр "І" з Мінска.







## Спіс пераможцаў V Парафіяды дзяцей і моладзі Віцебскай дыяцэзіі

### ТЭАТР:

**Візітная картка парафіі:**
Лынтупы
Мёры
Ваўкалаты

**Конкурс рэлігійнай песні:**
Варапаева
Глыбокае
Віцебск, парафія Св. Антонія

**Спецыяльная ўзнагарода** – Янковіч Макар *(Ваўкалаты)*

**Інсцэніроўка:**
Мёры
Глыбокае
Ваўкалаты

### СВЯТЫНЯ

**Конкурс малюнка:**
Соф'я Красоўская *(Мёры)*
Рэната Макрыцкая *(Лынтупы)*
Кацярына Грышан *(Віцебск, БГКЦ)*

**Конкурс ведаў "Мая Віцебская дыяцэзія":**
Станіслаў Бутрын *(Віцебск, парафія Св. Антонія)*
Ксенія Філіпенка *(Віцебск, парафія Езуса Міласэрнага)*
Глеб Шаршнёў *(Глыбокае)*

### СПОРТ

**Валейбол:**
Ваўкалаты
Віцебск, парафія Езуса Міласэрнага
Глыбокае

**Футбол:**
Ваўкалаты
Пагошча
Віцебск, парафія Св. Антонія

**Эстафета:**
Ваўкалаты
Варапаева
Віцебск, парафія Езуса Міласэрнага

**Бег**

**Дзяўчаты:**
Вера Варанко *(Віцебск, БГКЦ)*
Паліна Валеўка *(Мёры)*
Аліса Прохарава *(Віцебск, парафія Езуса Міласэрнага)*

**Хлопцы:**
Аляксандр Плюта *(Ваўкалаты)*
Данііл Рудак *(Глыбокае)*
Мікіта Ціўнэль *(Пагошча)*

**Скачкі ў даўжыню**

**Хлопцы:**
Андрэй Малатоўнік *(Варапаева)*
Аляксандр Плюта *(Ваўкалаты)*
Данііл Рудак *(Глыбокае)*

**Дзяўчаты:**
Ксенія Філіпенка *(Віцебск, парафія Езуса Міласэрнага)*
Ульяна Янковіч *(Ваўкалаты)*
Аляксандра Зябчанка *(Варапаева)*

### Па выніках намінацый "Спорт – тэатр – святыня":

1 месца — Варапаева
2 месца — Ваўкалаты
3 месца — Мёры

**Дзеці і моладзь Варапаеўскай парафіі ў 2020 годзе будуць прадстаўляць Віцебскую дыяцэзію на 32 Міжнарожнай парафіядзе ў Варшаве, а пасля іх чакае двухтыднёвы адпачынак.**



# Аўтамотафэст у Лепелі распачалі з малітвы ў касцёле

**17 – 18 жніўня ў Лепелі прайшоў музычны аўтамотафэст.**

**Зміцер Лупач**

Гэта мерапрыемства праводзілася па прыватнай ініцыятыве аўта- і мотааматараў, адзін з яго натхняльнікаў і арганізатараў – жыхар Лепеля Валерый Асоўскі.

– Ну і паколькі ўжо ў яго было жаданне правесці гэта свята, то мы вырашылі распачаць яго з асвячэння матацыклаў, – паведаміў кс. Уладзімір Заянчкоўскі, пробашч Лепельскай парафіі Святога Казіміра.

Байкеры сабраліся ў касцёле, дзе кожны памаліўся ў сваёй інтэнцыі. Потым арганістка Таццяна выканала некалькі спеваў, сярод якіх была песня "Малюся за цябе, Беларусь". Пасля гэтага ксёндз Уладзімір асвяціў матацыклы.

Далей удзельнікі свята накіраваліся за горад на аэрадром, дзе і адбыўся гэты фэст. Падобнае мерапрыемства праводзілася у Лепелі і раней, яно было прымеркаванае да гарадскога свята лепельскага цмока. Сёлета горад яго не праводзіў, але аўта- і мотааматары вырашылі ўсё адно сабрацца разам.



## На верасень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Віталь Бляднік** *(Падсвілле)*; імяніны адзначае **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*;

**4 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Антон Лагунёнак** *(Віцебск)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Юрый Бараўнёў** *(Порплішча)*;

**9 верасня** – імяніны адзначае **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*;

**18 верасня** – імяніны адзначае **а. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*;

**19 верасня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** *(Бягомль)*;

**21 верасня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Аляксей Ляшко** *(Віцебск)*, **а. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*;

**22 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. канонік Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*;

**23 верасня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Уладзімір Грыгор'еў**;

**26 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. канонік Андрэй Аніскевіч**, дырэктар Карытас *(Віцебск)*;

**28 верасня** – імяніны адзначаюць **кс. Вячаслаў Барок** *(Расоны)*, **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Ідолта)*, **а. Вадзім Мізер MIC** *(Орша)*;

**29 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*; імяніны адзначаюць **а. Міхаіл Ермашкевіч OP** *(Сянно)*, **кс. Міхаіл Татарэнка** *(Лужкі)*.

*Падрыхтаваў* ***Зміцер Лупач***

### Пакой для малітвы

у Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны аўторак, чацвер і пятніцу з 17.00.

Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне: + 375 29 78 51 298



# Лазар – сябра Езуса Хрыста

**Ці добра вы ведаеце Евангельскую гісторыю Лазара, які быў сябрам Хрыста? Праверце свае веды ў новым тэсце "Каталіцкага Весніка".**

**1** Дзе нарадзіўся Лазар, сябра Езуса?



**А.** Бэтлеем
**Б.** Бэтанія
**В.** Кафарнаум

**2** Як звалі сясцёр Лазара?



**А.** Лідзія і Тавіфа
**Б.** Рут і Эстэр
**В.** Марыя і Марта

**3** Якая з сясцёр Лазара памазала Госпада мірам і абцёрла ногі Яму сваімі валасамі? (Ян 11, 2)?



**А.** Тавіфа
**Б.** Марыя
**В.** Марта

**4** Колькі дзён Лазар ужо быў мёртвы, калі да яго прыйшоў Езус, каб уваскрасіць яго?



**А.** 2 дні
**Б.** 4 дні
**В.** Тыдзень

**5** Дзе быў пахаваны Лазар?



**А.** У пячоры
**Б.** У Ерусалімскай святыні
**В.** На вяршыне Аліўнай гары

**6** Словы, якія прамовіў Езус пры ўваскрашэнні Лазара? (Ян 11, 43)



**А.** Лазар, устань і хадзі!
**Б.** Лазар, прачніся!
**В.** Лазар, выйдзі вонкі!

**7** Колькі год пражыў Лазар, пасля таго як Езус яго ўваскрасіў?



**А.** 3 гады
**Б.** 15 гадоў
**В.** 30 гадоў

**8** Які далейшы лёс Лазара?



**А.** Стаў біскупам Марсэля
**Б.** Быў забіты імператарам Неронам
**В.** Падарожнічаў разам з апосталам Паўлам

*Падрыхтавала* ***Вікторыя Колзун***

**Правільныя адказы на старонцы 12**

# Каляндар на верасень

**3 верасня – успамін св. Грыгорыя Вялікага – Папы і доктара Касцёла**



Нарадзіўся Грыгорый Вялікі каля 540 г. у шляхетнай і багатай рымскай сям'і. Вядома, што ён вызначаўся вялікай вучонасцю, некаторы час быў прэфектам Рыма, а ў 574 годзе заснаваў манастыр св. Андрэя ў сваіх уладаннях у Рыме і стаў у ім манахам. У сакавіковым узросце прыняў пасвячэнне дыяканата з рук Папы Пелагія ІІ і на працягу сямі гадоў выконваў абавязкі нунцыя пры двары цэзара ў Канстанцінопалі.

У 590 годзе, пасля смерці падчас чумы Пелагія ІІ, становіцца Папам. Можна смела сцвярджаць, што ён стаў першым Папам, які быў манахам. Лічыцца, што менавіта пасля яго малітваў эпідэмія чумы спынілася.

Падчас яго пантыфікату да Касцёла былі далучаныя тры вялікія народы: прынялі хрысціянства англічане, а таксама навярнуліся з арыянскай ерасі лангабарды і іспанцы.

Святы Грыгорый Вялікі, Папа, засноўваў манастыры і ўмацоўваў аскетычную дысцыпліну. Яго імя запісана ў гісторыі музыкі і літургіі, таму што яму даручылі замовіць і сістэматызаваць літургічны спеў, пазней вядомы як "грыгарыянскі спеў". Ён таксама кадыфікаваў рымскі канон і дадаў да святой Імшы малітву "Ойча наш", якая прамаўляецца адразу пасля Эўхарыстычнага канона. У 600 годзе ўвёў лацінскую мову як адзіную ў літургіі Заходняга Касцёла.

З часоў Грыгорыя да 1962 г. рымскі канон больш не зведаў змяненняў і лічыцца найбольш багатай па форме эўхарыстычнай малітвай Касцёла. Святы Грыгорый увёў таксама так званую Грыгарыянскую святую Імшу за памерлых, якая адпраўляецца на працягу 30 дзён пасля смерці.

Грыгорый памёр 12 сакавіка 604 г. у Рыме і быў пахаваны ў базіліцы св. Пятра. За ім замацавалася слава дасканалага пантыфіка, а таксама тытул "Вялікі", які далі яму нашчадкі. Святы Грыгорый Вялікі з'яўляецца адным з чатырох заходніх Айцоў Касцёла і лічыцца апекуном музыкантаў, спевакоў і харыстаў, а таксама касцельных школаў.

**12 верасня – успамін Найсвяцейшага Імя Марыі.**



У гэты дзень праслаўляем Яе імя – "Марыя", якое, паводле традыцыі, Яна атрымала на чацвёрты дзень пасля свайго нараджэння. Гэтае імя ад пачатку хрысціянства з вялікай пашанай вымаўлялася побач з імем Езуса.

**13 верасня – успамін св. Яна Златавуснага (Хрызастома) – біскупа і доктара Касцёла.**



**14 верасня – урачыстасць Узвышэння Святога Крыжа.**



Лічыцца, што 14 верасня 335 г. адбылося асвячэнне святыні над пячорай Гроба Пана, дзе ўстанавілі знойдзены Крыж Збаўцы (адшукала крыж святая Алена – маці імператара Канстанціна). Каб шматлікія хрысціяне, прысутныя на ўрачыстасці, маглі ўбачыць вялікую святыню, біскуп узнімаў ("узвышаў") Крыж над галовамі людзей. У Рыме свята было ўведзена Папам Грыгорыем І. Пра выяўленне Жыватворнага Крыжа Панскага святою Аленаю пісалі многія раннехрысціянскія аўтары. Святы Амброзій, біскуп Міланскі, у пахвальным слове Феадосію Вялікаму таксама сведчыць пра гэтую падзею. Ён згадвае пра знойдзеную таблічку ад Крыжа з надпісам, пра што паведамляюць евангелісты, і цвікі, якімі былі прабіты рукі і ногі Хрыста. Ян Златавусны гаворыць, што калі было адкапанае "святое дрэва", то яго пазналі па таблічцы з надпісам і месцы знаходжання паміж двума іншымі крыжамі (разбойнікаў).

**21 верасня – успамін св. Мацвея, апостала і евангеліста.**




Да паклікання ў супольнасць апосталаў Мацвей быў мытнікам у Капернауме – горадзе, які знаходзіўся на заходнім беразе Генісарэцкага возера. Ён меў таксама і другое імя – Левій. Згодна з традыцыяй, пасля ўнебаўшэсця Хрыста Мацвей каля 42 г. пакінуў Палесціну і накіраваўся абвяшчаць Евангелле ў Егіпет і Эфіопію. Там ім былі здзейсненыя шматлікія аздараўленні. Не захавалася звестак пра тое, дзе і пры якіх абставінах загінуў апостал, але ўжо першыя хрысціяне ўшаноўвалі яго як мучаніка. Святы Мацвей з'яўляецца апекуном мытнікаў і банкіраў, а таксама ратуе ад алкагалізму.

**23 верасня – успамін св. Піа з П'етрэльчыны, святара.**



Франчэска Фарджонэ – будучы айцец Піа – нарадзіўся 25 мая 1887 г. у П'етрэльчыне (Паўднёвая Італія). У шаснаццацігадовым узросце ўступіў у закон капуцынаў і праз сем гадоў прыняў святарскае пасвячэнне. У 28 гадоў будучы айцец Піа атрымаў стыгматы – раны, як у Езуса Хрыста, што прычынялі яму нясцерпны боль. Праз накладзеныя на яго абмежаванні падрэ Піа прысвяціў сябе паглыбленаму духоўнаму жыццю, асабліва культу Эўхарыстыі, Мукі Пана і Маці Божай Балеснай, а таксама апостальству споведзі. Айцец Піа вядомы таксама як містык: ён меў дар білакацыі (адначасовага знаходжання ў двух месцах), дар ведання моваў, чытання ў сумленні, прадказання будучыні. Акрамя таго, ён заснаваў Дом палёгкі ў цярпенні – сучасную медыцынскую ўстанову, якая разам з тым з'яўляецца месцам малітвы і навукі, а таксама міжнародны малітоўны рух, што ахоплівае сотні груп вернікаў па ўсім свеце.

Падрэ Піа памёр 23 верасня 1968 г. у Сан-Джаванні Ратонда, дзе і быў пахаваны. Праз трыццаць гадоў пасля смерці ён быў беатыфікаваны, а ў 2002 г. кананізаваны.

**26 верасня – успамін св. Космы і Дам'яна, мучанікаў.**




Святыя мучанікі Косма і Дам'ян – родныя браты-блізняты, родам з Рыма, лекары па прафесіі, прынялі пакутніцкую смерць у Рыме пры імператару Карыну (283-284 гг.). Выхаваныя бацькамі-хрысціянамі ў правілах пабожнасці, яны вялі цнатлівае жыццё і атрымалі ад Бога дар вылечвання хвароб. Сваім добрым і бескарыслівым стаўленнем да людзей, злучаным з выключнай міласэрнасцю, браты многіх навярталі да Хрыста. Святыя звычайна казалі хворым: "Не сваёй сілай мы вылечваем хваробы, а сілай Хрыста, Праўдзівага Бога. Верце ў Яго і будзеце здаровыя". За бескарыслівае лячэнне хвароб святых братоў звалі "лекарамі без узнагароды". З дзеянняў братоў-лекараў найбольш вядомай з'яўляецца аперацыя па замене ампутаванай нагі чалавека нагою памерлага маўра.

Калі пры імператару Дыяклетыяне пачаўся жорсткі пераслед хрысціянаў, братоў-лекараў схапілі і пасля страшэнных катаванняў адсеклі ім галовы, так і не прымусіўшы адрачыся ад веры. Гэта адбылося каля 303 г. у сірыйскім горадзе Кірасе. У VI ст. успамін святых братоў быў уключаны ў Рымскі Канон, і ў гэты ж час у Рыме ў іх гонар была асвечана базіліка. Святыя Косма і Дам'ян з'яўляюцца апекунамі лекараў, хірургаў, студэнтаў-медыкаў і фармацэўтаў. Іх дапамогі просяць пры ракавых захворваннях.

**27 верасня – успамін св. Вінцэнта дэ Поля, святара.**



Святы Вінцэнт дэ Поль нарадзіўся ў Паўднёвай Францыі ў 1581 г. у беднай сялянскай сям'і. Пасля адпаведнай падрыхтоўкі ў 1600 г. атрымаў святарскае пасвячэнне. Праз пяць гадоў быў захоплены піратамі і тры гады правёў у рабстве ў Тунісе. У 1617 г. святы Вінцэнт прысягнуў да канца свайго жыцця служыць бедным і ў тым жа годзе арганізаваў Брацтва міласэрнасці – супольнасць свецкіх сясцёр. Праз тры гады ён заснаваў мужчынскае таварыства служыцеляў бедных. З мэтай павышэння ўзроўню ўнутранага жыцця духавенства ўвёў практыку рэкалекцый перад пасвячэннем і заснаваў духоўныя семінарыі пад кіраўніцтвам святароў-місіянераў. Паколькі сядзіба супольнасці Місій знаходзілася побач з парыжскім касцёлам святога Лазара, законнікаў пачалі называць лазарыстамі.

У 1633 г. Вінцэнт дэ Поль разам з Луізай дэ Марыяк заснаваў законную супольнасць Дачок міласэрнасці, вядомых пад назвай шарыткі (ад французскага слова charity – міласэрнасць). Памёр святы ад знясілення 27 верасня 1660 года ў Парыжы. 13 жніўня 1729 г. Папа Бэнэдыкт XIII абвясціў Вінцэнта дэ Поля благаслаўлёным, а 16 чэрвеня 1737 г. Папа Клімент XII далучыў яго да ліку святых.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

**Больш навін, здымкаў і відэа на Catholicnews.by**

# Ці можа сястра быць хроснай маці дзіцяці брата?

*"Хвала Хрысту! Я з'яўляюся хросным бацькам дзяцей сваёй роднай сястры. Ці існуюць кананічныя ці іншыя перашкоды, каб у гэтым выпадку мая сястра была хроснай маці майго дзіцяці? Іван."*

– Хвала навекі, шаноўны Іван! Згодна са старажытнай традыцыяй Касцёла прысутнасць хросных бацькоў, якія спрадарожнічалі дзіцяці як падчас хросту, так і пасля яго, устанаўлівала важную духоўную сувязь альбо духоўную блізкасць паміж ахрышчаным і хроснымі. Настолькі яна з'яўлялася важнай, што ў мінулым адносілася да адной з перашкодаў для заключэння сакраманту сужэнства, гэта значыць, што паміж ахрышчаным і хроснымі бацькам ці маці забаранялася заключаць сужэнства. Існае сёння кананічнае заканадаўства больш не разглядае духоўную сувязь альбо духоўную блізкасць як перашкоду для заключэння кананічнага сужэнства.

Хросныя бацькі з'яўляюцца сведкамі хросту дзіцяці. Яны разам з роднымі бацькамі просяць пра ўдзяленне сакраманту хросту, вызнаюць веру, у якой ахрышчанае дзіця будзе выхавана, і выказваюць таксама гатоўнасць дапамагаць яго выхоўваць.

Канон 774 § 2 Кодэкса Кананічнага Права 1983 г. падкрэслівае, што *"бацькі ў першую чаргу абавязаны словам і прыкладам выхоўваць дзяцей у веры і практыцы хрысціянскага жыцця. Такі ж самы абавязак ускладаецца на тых, хто замяняе бацькоў, а таксама на хросных"*.

Кодэкс Кананічнага Права ў каноне 874 § 1 вельмі ясна вызначае патрабаванні, якія павінен мець кандыдат, прымаючы на сябе абавязак хроснага. У першую чаргу, гэта павінна быць асоба, выбраная бацькамі дзіцяці, альбо тымі, хто іх замяняе. Калі гаворка ідзе пра дарослую асобу, якая рыхтуецца прыняць сакрамант хросту, то хросныя павінны быць выбраныя гэтай жа асобай. Кандыдату на хроснага неабходна мець узрост не менш чым 16 гадоў (калі няма іншага распараджэння дыяцэзіяльнага біскупа па важнай прычыне, пробашч ці той, хто ўдзяляе сакрамант, можа зрабіць выключэнне). Трэба, каб кандыдат быў ахрышчаным і каталікам-практыкам, які прыняў сакрамант бежмавання і Першую Святую Камунію. Таксама вельмі важнай якасцю кандыдата на хроснага з'яўляецца тое, што ён павінен весці жыццё, згоднае з каталіцкай верай і павінен адпавядаць функцыі, якую мае выконваць, а таксама быць свабодным ад кананічнай кары і не з'яўляцца бацькам альбо маці таго, хто прымае хрост.

Трэба памятаць, што ўсё ж такі галоўным заданнем хросных з'яўляецца дапамога бацькам у духоўным (а ў асаблівых выпадках не толькі ў духоўным) і маральным выхаванні дзіцяці. З гэтага вынікае, што хроснымі могуць быць толькі тыя асобы, якія прымаюць веру сур'ёзна, практыкуюць яе штодзённа, жывуць паводле вызнаванай веры і згодна з хрысціянскай маральнасцю. Кажучы простымі словамі, хроснымі могуць быць толькі тыя людзі, якія штодзённа жывуць Евангеллем.



Канон 893 § 2 таксама акрэслівае: *"Пажадана, каб сведкам бежмавання прызначаўся хтосьці з хросных, які прыняў на сябе тыя ж самыя абавязкі пры хрышчэнні"*. Але трэба зазначыць, што гэтае прадпісанне не з'яўляецца абавязковым, а толькі звычайным пажаданнем.

Калі ўвогуле казаць пра перашкоды, то з упэўненасцю можна сцвярджаць, што аўтаматычна выключаюцца з ролі хросных бацькоў людзі, жыццё якіх не адпавядае Евангеллю, публічныя грэшнікі, людзі, што публічна выказваюць пазіцыі, супрацьлеглыя вучэнню Касцёла (тыя, хто выступаюць за аборты, разводы; тыя, хто не згаджаецца з навучаннем Касцёла і сумняваецца ў яго аўтарытэце), таксама і людзі, якія маюць удзел у сакрамантах Касцёла блізкі да нуля (людзі, якія гадамі не прыступаюць да святой споведзі і якія звычайна не ўдзельнічаюць у святой Імшы).

Падсумоўваючы ўсё сказанае, шаноўны Іван, можна зрабіць вывад, што ў прадстаўленым выпадку не існуе ніякай перашкоды, каб Ваша сястра была хроснай маці Вашага дзіцяці.

*З павагай і малітвай,*
***кс. Аляксей Ляшко,***
*афіцыял Біскупскага Суда*

# Трудные вопросы: может ли пастор заменить священника на Мессе?

***"Какие Церкви имеют successio apostolica – апостольскую преемственность в рукоположении в сан священника? Может ли протестантский пастор кальвинистского течения заменить священника в служении Мессы, если он принял рукоположение в пресвитеры от епископа Церкви Моравских братьев? Сохранилась ли цепочка рукоположений от времен апостолов в Англиканской и Лютеранской Церкви?"***

Критерии для суждения о наличии апостольского преемства перечислены в документе Международной богословской комиссии "Апостольство Церкви и апостольское преемство". В нем изложено католическое понимание этого термина и основные критерии для оценки служений в других христианских общинах. При этом отмечается, что в самих этих общинах понимание апостольского преемства может быть иным и не соответствовать католическому.

Что касается Православных Церквей, то в документе говорится следующее: "Несмотря на различные суждения, выносимые о служении Петра, Католическую Церковь, Православную Церковь и другие Церкви, которые сохранили наличие апостольского преемства, объединяет одно и то же основополжное понимание священного менталитета Церкви, развившегося со времен Нового Завета посредством общих Святых Отцов, в особенности святого Иринея. Эти Церкви рассматривают приобщение к церковному служению посредством Таинства, совершаемого через возложение рук с призыванием Святого Духа, как незаменимую форму для передачи апостольского преемства, которое исключительным образом позволяет Церкви выстоять в доктрине и в единстве. В этой единодушной и никогда не прерванной последовательности между Писанием, Преданием и Таинством заключается причина, по которой общение между этими Церквами и Католической Церковью никогда не было прервано окончательно и сегодня может быть восстановлено".

Далее перечисляются другие Церкви. Церкви Англиканского сообщества, утверждается в документе, "сохранили рукоположение, изменив его интерпретацию". Отмечается, что на эту тему идет диалог, и пока еще невозможно предусмотреть его итоги. Согласно апостольской конституции Папы Бенедикта XVI "Anglicanorum Coetibus" 2009 года, рукоположенные служители Англиканской Церкви – епископы, пресвитеры и диаконы – при воссоединении с Католической Церковью могут быть приняты лишь в качестве кандидатов к священному рукоположению (AC 6), в отличие от православных священнослужителей, принимаемых в лоно Католической Церкви в сущем сане.

Общины, появившиеся в результате Реформы XVI века, "пришли к отрицанию связи между Писанием и Преданием Церкви в пользу нормативного характера одного только Писания. Хотя в дальнейшем различными способами звучали призывы к Преданию, все же за ним не признается то же достоинство, которое было ему присуще в древней Церкви". Поскольку Таинство Священства является выражением общения в Предании, "провозглашение Sola Scriptura привело к отказу от исконного понимания Церкви и ее священства. Поэтому фактически на протяжении веков часто имел место отказ от возложения рук", отмечается в документе, а там, где рукоположение совершалось, оно не было наделено тем же значением, каким обладает в Церкви, которая следует Преданию. Таким образом, прерывание связи с Преданием даже в тех случаях, когда делаются шаги к возвращению к нему, не позволяет судить о "сакраментальной последовательности в апостольской преемственности", которая, помимо Католической Церкви, наличествует только в Православных Церквах.

Все эти соображения, отмечается в документе, не отменяют того факта, что в англиканских общинах и в общинах, возникших в результате Реформы, "есть элементы, безусловно, относящиеся к апостольскому характеру единой Церкви Христовой", однако духовная ценность служений в этих общинах должна быть дополнена "таинственным актом".

В общинах, появившихся в результате Реформы, не существует веры в освящающую благодать Таинств. Мы, католики, как и православные, веруем, что Иисус передает нам Божественную жизнь, преображающую нас внутренне, очищающую и освящающую нас. Ординарный путь к стяжанию этой Божественной жизни – Таинства. В особенности – Таинство Евхаристии и Таинство Покаяния. Служитель, не принимающий веры Католической Церкви в освящающую благодать Таинств, не может совершать эти Таинства действительным образом.

Однако, когда речь идет о совершении Таинства Евхаристии, то даже гипотетическое апостольское преемство и гипотетическая вера в благодать Таинств не дают права и возможности служителю служить Мессу в католическом храме. Мало того, даже действительное рукоположение не предоставляет автоматически такого права. Пресвятую Евхаристию может совершать лишь священник, рукоположенный не только действительным, но и законным образом, с соблюдением всех норм канонического права.

***Ольга Сакун,***
*русская редакция*
*Vatican News*



## Хвала Хрысту!

*Ад імя ўсіх вернікаў дзеркаўшчынскага касцёла Унебаўшэсця Пана віншуем былога пробашча нашай парафіі* ***ксяндза Андрэя Куліка*** *з нагоды Дня нараджэння (26 жніўня)!*

*Ад усяго сэрца жадаем Вам, шаноўны ксёндз Андрэй, шчодрых Божых ласкаў, моцы і цярплівасці ў выкананні ўсіх душпастырскіх абавязкаў. Няхай добры Бог дапаможа пераадолець усе цяжкасці, а дарога, якая выбрана Вамі, хай будзе шчаслівай і блаславёнай! Няхай здароўе будзе моцным, а радасць – штодзённай!*

*Мы памятаем і любім Вас! Нізка кланяемся і шчыра дзякуем Вам, наш дарагі ксёндз Андрэй, за клопат і ласку, за мудрыя казанні падчас святой Імшы, за глыбокую веру, за дабрыню і сардэчнасць, за аптымізм і мужнасць, за ўсё, што было зроблена ў нашай парафіі за чатыры з паловай гады, якія Вы былі разам з намі!*

*Шчыра молімся, каб Божая міласэрнасць спадарожнічала Вам праз усё далейшае жыццё!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю,***
***вернікі парафіі Унебаўшэсця Пана***
***(Дзеркаўшчына)***

## Хвала Хрысту!

*Удзельнікі малітоўнага руху "Маргарытка" з Падсвільскай парафіі Глыбоцкага раёна віншуюць з Днём нараджэння* ***ксяндза Андрэя Куліка****, які ён адзначае 26 жніўня. Ксёндз Андрэй працаваў у нашай парафіі. Мы шчыра дзякуем яму за ахвярную і адданую працу ў пабудове касцёла ў Падсвіллі.*

*Цяпер ён у Мёрах, але мы памятаем і молімся за яго. Няхай Пан Бог дапамагае яму ва ўсіх пачынаннях!*



***Дык прыміце нашы віншаванні,***
***Шчасце Вам, здароўя і свята,***
***Няхай збудуцца ўсе Вашыя жаданні,***
***І каб вера доўга-доўга Вас вяла!***
***Хай Марыя-Панна атуляе***
***Ласкаю, як матчыным плашчом.***
***Езус Хрыстус хай благаслаўляе,***
***Прывітанне шчырае Вам шлём!***

***З павагай, вернікі касцёла***
***Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса.***
***Падсвілле. Апостальскі рух "Маргарытка"***

## Хвала Хрысту!



*1 верасня адзначае Дзень нараджэння наш* ***ксёндз-пробашч Віталь Бяленік****.*

*Паважаны ксёндз Віталь! Шчыра віншуем Вас з Днём нараджэння, жадаем Вам Божай дапамогі ва ўсіх справах, моцнага здароўя, узаемаразумення з людзьмі, якія ў Вас маюць патрэбу, святла і гармоніі ў душы! Няхай Добры Бог узнагародзіць Вас усімі неабходнымі ласкамі, адорыць доўгімі гадамі жыцця, дасць Вам шчасця і ўдачы! Няхай Маці Божая атуляе Вас сваёй любоўю і дабром!*

***Са словамі падзякі і шчырай удзячнасці,***
***вернікі парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса***
***(Падсвілле)***

## Віншуем!

***Шаноўныя супрацоўнікі газеты "Каталіцкі Веснік"!*** *Віншуем Вас з юбілейным, сотым нумарам газеты і шчыра дзякуем за Вашу працу!*

*Мы выпісваем газету і чытаем яе з захапленнем! З газеты мы даведваемся, як жыве Віцебская дыяцэзія.*



***Желаем здоровья на долгие годы,***
***Чтоб Вас миновали невзгоды,***
***Чтобы от счастья блестели глаза,***
***Чтоб только от смеха стекала слеза!***

***Чытачы газеты,***
***парафіяне касцёла з г. Новалукомля***

## Хвала Хрысту!

*Два гады ў нас працуе* ***ксёндз Мікалай Ліпскі****. Ён клапоціцца не толькі пра наша духоўнае жыццё, але і пра касцёл, які знаходзіцца ў цэнтры нашага горада. Людзі дзякуюць святару за прыгожае ўпарадкаванне прыкасцельнай тэрыторыі. Па-першае, вакол касцёла ўстаноўлена новая агароджа, па-другое, навокал святыні пракладзена пешаходная дарожка. Крыжы на вежах нашага касцёла аздобіліся адмысловай падсветкай. А які цудоўны куточак для Маці Божай на прыкасцельнай тэрыторыі! Словамі не перакажаш, трэба ўсё гэта ўбачыць!*

*На фэст, што адбываецца 22 ліпеня, сабралася шмат парафіян і гасцей. Людзі надыходзілі і дзівіліся з гэтай прыгажосці са слязамі радасці на вачах і дзякавалі Богу, што такое змаглі ўбачыць.*

*Пасля фэсту ў хуткім часе прайшло асвячэнне фігуры Маці Божай і фігуры святога Максімільяна Кольбэ. І ўсё гэта дзякуючы старанню ксяндза Мікалая! Жыхары нашага горада не могуць наглядзецца на цудоўны куточак ля касцёла!*

*Вось такі працуе ў нас святар: сціплы, спакойны, творчы. Ва ўсіх справах яму дапамагаюць парафіяне і ягоныя бацькі, якія крочаць з ім нага ў нагу.*

*Таму, дарагі пробашч, Вам, Вашым бацькам, супрацоўнікам газеты "Каталіцкі Веснік" мы жадаем ад чыстага сэрца:*

*Радости в жизни, успеха везде,*
*Счастья побольше, здоровья покрепче!*
*И долгую-долгую жизнь на земле!*

***Удзячныя парафіяне***
***касцёла Святой Марыі Магдалены,***
***г. Новалукомль***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*3 жніўня наш былы пробашч* ***ксёндз Мікалай Ліпскі*** *адзначыў свой Дзень нараджэння. Дасылаем Вам, шаноўны ксёндз Мікалай, самыя цёплыя прывітанні і шчырыя віншаванні! Жадаем моцнага здароўя, добрага настрою і доўгіх гадоў жыцця. Няхай заўсёды спадарожнічаюць Вам радасць творчага пошуку ды аптымізм і асвячаюць промні Божай Міласэрнасці, моц Духа Святога і апека Найсвяцейшай Панны Марыі!*

***Каб хапала сіл заўжды***
***Службы доўгія вясці.***
***Чалавека падтрымаць,***
***Слова добрае сказаць.***

***Вера хай Вас умацоўвае,***
***Душу, цела падбадзёрвае!***

***Вернікі Лучайскай парафіі***

## Хвала Хрысту!

*3-га жніўня адзначыў свой Дзень нараджэння* ***ксёндз Мікалай Ліпскі****.*

*Паважаны ксёндз Мікалай! Сардэчна віншуем Вас з гэтай нагоды і дасылаем самыя шчырыя пажаданні: нястомнай апекі Маці Божай, дароў Духа Святога, здароўя і шмат радасных, шчаслівых дзён, натхнення ў творчай працы на хвалу Божую!*

*Хіба можна забыць дзесяць гадоў Вашай творчай працы ў Лучаі?! Памятаем Вас і жадаем усяго найлепшага!*

***Удзячныя парафіяне з Лучая***

## Прыміце шчырыя пажаданні!



***Шаноўны Ойча Аляксандр Дулінец!*** *Прыміце шчырыя пажаданні здароўя, міру і душэўнай гармоніі з нагоды Дня нараджэння, які Вы адзначаеце 28 жніўня! Няхай моцная вера, светлая надзея і верная любоў Бога напаўняюць Ваша сэрца і сэрцы кожнага блізкага, кожнага знаёмага, кожнага верніка! Няхай Госпад заўсёды будзе з Вамі, няхай кожны дзень жыцця нясе з сабой святло Божай мілаты і шчасця!*

***З павагай і ўдзячнасцю,***
***вернікі парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса***
***(Падсвілле)***

## Хвала Хрысту!

*Шаноўнага* ***айца Уладзіміра****, добрага пастыра многіх авечак, сардэчна віншуем з Днём нараджэння!*

*Жадаем, каб Міласэрны Бог і надалей адорваў Вас, а. Уладзімір, Сваімі блаславеннямі, а праз гэта пашыраўся наш статак і ўсе авечкі мацней гарнуліся да Езуса – Добрага Пастыра – праз Вашу вернасць Яму і пяшчотную сыноўнюю любоў да Найсвяцейшай Панны Марыі! Няхай, паважаны а. Уладзімір, выльюцца на Вас усе блаславенні з нябёсаў!*

***З павагай і ўдзячнасцю,***
***парафіяне касцёла Маці Божай Фацімскай***
***у г. Дуброўна***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Ад шчырага сэрца віншуем нашага земляка* ***ксяндза Уладзіміра Шымковіча*** *з Днём нараджэння (7 жніўня)!*

*Паважаны ксёндз Уладзімір! Жадаем Вам моцнага здароўя, каб Вы доўга служылі людзям, каб дапамагалі знайсці шлях да Бога! Няхай Усемагутны Бог Вас ніколі не пакідае, а Маці Божая хай ахінае Вас сваёй апекай для святога служэння Богу і людзям!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі касцёла***
***з м. Лынтупы***

## Хвала Хрысту!

*Дасылаем шчырыя віншаванні* ***ксяндзу Вячаславу Адамовічу*** *з нагоды Дня нараджэння і гадавіны святарскага пасвячэння!*

*Жадаем вам, ксёндз Вячаслаў, дароў Духа Святога, апекі Панны Марыі, моцнага здароўя і багатага плёну на Божай ніве. Няхай заўсёды аберагае Вас Анёл-ахоўнік!*

*А яшчэ віншуем з Днём нараджэння* ***ксяндза Вячаслава Пялінка****, нашага былога святара. Дзякуем за ахвярную працу, за шчырую малітву! Жадаем плёну ў нялёгкай працы, моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця!*

***З вялікай павагай і сардэчнай удзячнасцю,***
***вернікі Ідолтаўскай парафіі***

## Паважаны ксёндз Вячаслаў!

*Шчыра, сардэчна віншуем Вас з Днём нараджэння! Жадаем Вам апекі Маці Божай! Няхай Вялікі Бог адорыць Вас спакоем, даўгалеццем, моцным здароўем і ўсімі патрэбнымі ласкамі!*

*Мы шчаслівыя, што маем такога святара: ласкавага, добрага, усмешлівага і гатовага прыйсці ўсім на дапамогу!*

***З удзячнасцю Пану Богу***
***за святара і з павагай,***
***вернікі капліц Забалоцце і Дзедзіна***

## Віншуем!



*5 жніўня адзначыў чарговую гадавіну святарскага пасвячэння* ***ксёндз Юрый Жаўняровіч****.*

*Ад усяго сэрца віншуем Вас, паважаны кс. Юрый! Молімся за Вас. Жадаем моцнага здароўя, плёну у працы на карысць Святога Касцёла! Няхай усе людзі, якіх Вы сустракаеце на святарскім шляху, адорваюць Вас зычлівасцю і дабрынёй. Божага благаслаўлення Вам і апекі Маці Божай!*

***Вернікі парафіі Маці Божай Анёльскай***
***(в.Замошша)***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – Б; 2 – В; 3 – Б; 4 – Б; 5 – А; 6 – В; 7 – В; 8 – А

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



***Сястра Люцына Вонс** адпрацавала ў нашай парафіі шэсць гадоў. Нарадзілася яна ў Кракаве ў сям'і шчырых вернікаў. Яшчэ ў школе з захапленнем назірала за манахіняй, якая выкладала Катэхізіс, а ў чыстым дзявочым сэрцы зарадзілася жаданне быць такой жа. У 21 год зрабіла канчатковы выбар. Кляштар сясцёр-служабнічак Панны Марыі ў Дэмбіцы стаў для яе родным.*

*Завочна шэсць гадоў вучылася ў Кракаўскай вышэйшай педагагічна-філасофскай школе Ignacianum. Працавала ў дзіцячых садках, выкладала ў школах Катэхізіс. Жаданне працаваць у Беларусі не было выпадковым: даводзілася мець кантакты з нашымі землякамі.*

*Божы Провід пакіраваў так, што ў 2014 годзе сястра Люцына прыехала да нас у Лынтупы. Мы дзякуем ёй за актыўную і плённую працу з нашымі дзецьмі. Колькі розных мерапрыемстваў пад яе кіраўніцтвам адбылося ў прыкасцельным араторыі, у школе, у мясцовым Доме культуры, у дзіцячым садку, у доме для састарэлых (аддзяленне кругласутачнага знаходжання пажылых). Адпачынкі ў Польшчы, конкурсы нацыянальных батлеек, рэкалекцыі, дыяцэзіяльныя дні моладзі, парафіяды, на якіх дзеці занялі прызавыя месцы... Якая ўцеха для бацькоў бачыць шчаслівыя дзіцячыя вочы!*

*Паважаная сястра Люцына! Мы ўдзячныя за Ваш клопат пра дзетак, за ласку, за сардэчнасць і дабрыню, за малітвы, за навуку любіць Бога і тых, хто патрабуе дапамогі і спагады. Вы выхоўвалі нашых дзяцей у найлепшых хрысціянскіх традыцыях. Няхай Міласэрны Бог узнагародзіць Вас за адданую працу ў нашай парафіі! Няхай Святы Дух заўсёды падтрымлівае і беражэ Вас, а Маці Божая хай блаславіць усе Вашы справы і дарогі і трымае Ваш жыццёвы шлях пад сваёй апекай!*

*Мы будзем памятаць Вас і маліцца ў Вашай інтэнцыі. Поспеху Вам на новым месцы, зычлівых і ўдзячных людзей, дапытлівых і адкрытых дзіцячых сэрцаў! Няхай багатым будзе Ваша жніво, сястра Люцына!*

***Вернікі касцёла святога Андрэя Апостала, м. Лынтупы***

## Паважаная рэдакцыя!



*Ад імя ўсёй Верхнядзвінскай парафіі просім праз газету павіншаваць з дзесяцігоддзем святарства нашага шаноўнага **ксяндза Аляксандра Грыцкевіча**.*

*Амаль палову свайго святарскага шляху ксёндз Аляксандр працуе ў нашай парафіі.*

*З яго прыходам мы атрымалі маладога, энергічнага, поўнага новых ідэй святара, які разам з тым паважае нашы традыцыі. За час працы ў Верхнядзвінску маладога пробашча мы бачым у ім адданага слугу Касцёла і моцную асобу, здольную весці за сабой людзей, згуртаваць парафію, адстойваць прынцыпы веры і хрысціянскай маралі. Вельмі імпануе, што наш шаноўны пробашч уважліва ставіцца да вернікаў і іх патрэбаў, шмат працуе дзеля ўмацавання духоўнасці на нашай зямлі, уводзіць новыя прыгожыя звычаі. А яго пісьменныя, глыбокасэнсоўныя, цікавыя і павучальныя прамовы на прыгожай беларускай мове зачароўваюць нас і кранаюць да глыбіні душы!*

*Сардэчна дзякуем айцу Аляксандру за шчырую службу, за прыклад нястомнай працы і вернасці абранаму шляху і жадаем плёну ў новых пачынаннях і адметнага святарскага жыцця! Асабліва дзякуем за дзяцей, якім ён удзяляе ўвагу і падчас заняткаў, і канікулаў з Богам, і цікавых рэлігійных сустрэч.*

*Мы ж будзем усебакова падтрымліваць яго ініцыятывы і маліцца, каб Бог адарыў нашага любімага святара здароўем і сілай для гэтай працы, блаславіў ва ўсіх справах, вёў дарогай узрастання ў веры і мудрасці. Каб ім апекавалася Божая Маці і атуляла сваёй міласэрнасцю і дабрынёй. Каб верхнядзвінская зямля стала для яго роднай і плаціла за службу шчырай любоўю і павагай!*

***З павагай, вернікі Верхнядзвінскай парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі***

## Выказваем удзячнасць



*Паважаны **ксёндз Кшыштаф Сілкоўскі**! Дазвольце Вас павіншаваць з юбілеем! Ад імя ўсіх вернікаў парафіі выказваем Вам вялікую ўдзячнасць за Вашу працу, за ўклад, які Вы ўнеслі ў развіццё Шаркаўшчынскай парафіі!*

*Мы заўсёды будзем памятаць Вашу руплівасць і любоў, якой Вы нас атулялі. Мы будзем памятаць Вашы мудрыя словы, якімі Вы нас падтрымлівалі, дапамагалі, накіроўвалі на шлях да Бога!*

*Ваша добразычлівасць, адданасць, адкрытасць да кожнага чалавека з'яўляецца для нас прыкладам. Жадаем Вам Божай падтрымкі, апекі Маці Божай! Мы заўсёды будзем маліцца за Ваша здароўе.*

*Няхай Маці Божая Нястомнай Дапамогі заўсёды будзе разам з Вамі! Жадаем Вам фізічных і духоўных сіл на Божай ніве!*

***Вернікі Шаркаўшчынскай парафіі***

## Шчыра віншуем!

*16 жніўня сваё 65-годдзе адзначае **ксёндз Кшыштаф Сілкоўскі** з Пастаўскай парафіі Антонія Падунскага. Шчыра віншуем шаноўнага святара, жадаем яму Божай міласэрнасці, нястомнай апекі Маці Божай! Дзякуем за адданую службу нам, парафіянам. Няхай радасць, любоў, дабрыня заўсёды напаўняюць яго сэрца!*

***Парафіяне з Паставаў***



## Хвала Хрысту!



*З вялікай любоўю і пашанай віншуем **сястру законную Ганну Блышко** з Днём нараджэння, які яна адзначыць 1 верасня.*

*Дарагая сястра Ганна, жадаем Вам хрысціянскай радасці, аптымізму, моцнага здароўя, вытрымкі ў манаскім пакліканні! Няхай Пан Бог аддзячыць Вам за адданае служэнне, а Маці Божая атуляе Вас сваёй ласкай і аберагае на жыццёвай дарозе!*

***Удзячныя вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***



## Поздравляем!

*Поздравляем **ксендза Геннадия Рейшеля** с Днём рождения и **ксендза Максима Бочарникова** с именинами! Пусть Бог дает вам силы, Дух Святой наделяет мудростью и покоем, а Иисус и Мария всегда вас оберегают! Желаем вам крепкого здоровья и долгих лет жизни, добрых и отзывчивых прихожан. Мы всегда будем помнить о вас в наших молитвах!*

***Прихожане Шарковщинского прихода***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік" вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:
***Місевіч Віктар Мар'янавіч вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

Каталіцкі ВЕСНІК №8(101) жнівень 2019 г.

# Думкі і малітвы святога Яна Златавуснага



13 верасня Каталіцкі Касцёл успамінае св. Яна Златавуснага (Хрызастома), біскупа і доктара Касцёла.

Мы падрыхтавалі для чытачоў “Каталіцкага Весніка” меркаванні святога Яна пра малітву, а таксама яго знакамітую няспынную малітву.

● **Малітва – гэта лекі.** Але калі мы не ведаем, як іх ужываць, мы не атрымаем ад іх карысці. І перш за ўсё варта ведаць, што для малітвы не патрабуецца пэўнага становішча цела, няма неабходнасці ў асаблівым месцы і часе, але патрэбныя толькі шчодры розум і ўвага. Апостал Павел (хоць быў у гэты час звязаны ў кайданы) ператрос вязніцу і прывёў яе ў рух, таму што памаліўся з жаданнем. Нам трэба навучыцца мець моцнае жаданне да малітвы. Мець жаданне быць у няспынным дыялогу з Госпадам – днём і ноччу.

● **Мы павінны падыходзіць да Бога і гаварыць з Ім сам-насам.** Таму што калі нам трэба сказаць нешта сур'ёзнае нашым сябрам, мы з імі сустракаемся асабіста і асабіста абмяркоўваем. Тым больш трэба, каб мы рабілі так у гутарцы з Богам, уваходзячы ў блізкасць адносінаў з Ім. І наша малітва абавязкова будзе пачутая, калі тое, пра што мы просім, будзе нам на карысць.

● **Ты кажаш, што схіляеш калені, але думкі твае лунаюць па-за малітвай.** Вусны гавораць малітву, а думкі падлічваюць даходы, сувязі, адносіны, маёмасць і г.д… Д'ябал – падступны, які ён і ёсць, выступае супраць нас. Ён ведае, што час малітвы вельмі для нас карысны. Так часта бывае, што калі мы кладзёмся спаць, у нас няма ніякіх думак. А прыходзім на малітву – і нам перашкаджаюць незлічоныя думкі, бо д'ябал аддаляе нас ад малітвы, каб не было нам карысці, таму што ён, безумоўна, ведае, што самая вялікая зброя – гэта малітва.

● Калі, любы дружа, ты бачыш, што думкі, якія аддаляюць ад Госпада, прыходзяць у гадзіну малітвы (і калі ты па-за домам, у дарозе), кажы бесперапынна: “Злітуйся нада мною”, не рухаючы вуснамі, але магутным крыкам розуму. Таму што і **калі мы маўчым, Бог нас чуе**. Месца не мае значэння, але нам важны спосаб. Ерамія быў у дрыгве – і звяртаўся да Бога. Ён сядзеў зверху на багне – і Госпад яго пачуў. Ён ва ўлонні кіта таксама быў пачуты Богам.

● І калі ты ў лазні – маліся, і калі ты ў дарозе, і калі ў ложку. **Куды б ты ні пайшоў, маліся!** Ты – храм Божы, не шукай асаблівага месца, бо патрэбна толькі твая прысутнасць і жаданне быць з Госпадам.

## 24 малітвы святога Яна Залатавуснага па колькасці гадзін дня і ночы

1 Божа, не пазбаў мяне нябесных Тваіх даброт.

2 Божа, збаў мяне ад вечных мукаў.

3 Божа, розумам ці думкаю, словам ці ўчынкам сагрэшыў я, прабач мне.

4 Божа, збаў мяне ад усякага няведання і забыцця, і маладушнасці, і скамянелае нячуласці.

5 Божа, збаў мяне ад усялякай спакусы.

6 Божа, прасвятлі маё сэрца, азмрочанае зманлівай пажадлівасцю.

7 Божа, я як чалавек саграшыў, Ты ж як Бог шчодры змілуйся нада мною, бачачы немачы маёй душы.

8 Божа, спашлі ласку Тваю ў дапамогу мне, каб я праслявіў імя Тваё святое.

9 Божа, Езу Хрыстэ, запішы мяне, слугу Твайго, у кнізе жыцця і даруй мне шчаслівую смерць.

10 Божа мой, хоць я і нічога добрага не зрабіў перад Табою, але дай мне з ласкі Тваёй пакласці добры пачатак.

11 Божа, абмый маё сэрца расою Тваёй ласкі.

12 Божа неба і зямлі, успомні мяне грэшнага, нягоднага і нячыстага слугу Твайго ў Валадарстве Тваім. Амэн.

13 Божа, у пакаянні прымі мяне.

14 Божа, не пакінь мяне.

15 Божа, не дай мне ўвайсці ў спакусу.

16 Божа, дай мне добрыя думкі.

17 Божа, дай мне слёзы і памяць пра смерць і замілаванне.

18 Божа, дай мне жаданне вызнаваць мае грахі.

19 Божа, дай мне пакорлівасць, цнатлівасць і паслухмянасць.

20 Божа, дай мне цярпенне, велікадушнасць і лагоднасць.

21 Божа, пасадзі ўва мне корань дабра і боязь Божую ў сэрца маё.

22 Божа, навучы мяне любіць Цябе ўсёю душою маёю і розумам і выконваць ва ўсім волю Тваю.

23 Божа, захавай мяне ад злых людзей, і ад дэманаў, і ад спакусаў, і ад усялякіх іншых нядобрых рэчаў.

24 Божа, няхай будзе воля Твая ва ўсім і ўва мне, грэшным, бо Ты – блаславёны навекі. Амэн.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***



# “Школа сямейнага жыцця” аб’яўляе набор слухачоў

**“Школа сямейнага жыцця” Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі ў Мінску аб’яўляе набор слухачоў на 2019/2020 гг.**

Прыём дакументаў адбудзецца 7 верасня з 17 да 19 гадзін у мінскім касцёле св. Сымона і св. Алены (Чырвоны касцёл).

Ахвотныя могуць атрымаць падрабязную інфармацыю па тэлефоне:

**+375 44 759 45 25 *(а. Сяргей Трысцень OCD)*.**

**Неабходныя дакументы:** просьба аб прыняцці; біяграфія; рэкамендацыя пробашча; 2 фотаздымкі; ксеракопія пасведчання аб атрыманні сярэдняй або вышэйшай адукацыі; ксеракопія пашпарта.

**Задачы і мэты “Школы сямейнага жыцця”:**

1. Мэтай курсу з’яўляецца падрыхтоўка кваліфікаваных кадраў для працы ў сямейных кансультацыях.

2. Працаўнікі сямейных кансультацый павінны ўмець падтрымліваць і дапамагаць праблемным сем’ям з наступнымі цяжкасцямі: алкагалізм, дзеці з адхіленнямі, сем’і ў крызісе, пагроза разводу, самотнае мацярынства і г.д. З гэтай мэтай прагрaма курсу ўключае шмат прадметаў з галіны псіхалогіі і практычныя заняткі.

3. Асобы, якія працуюць у кансультацыях, таксама павінны быць каталікамі-вернікамі, таму ў праграме прадугледжаны фундаментальныя тэалагічныя і этычныя прадметы.

4. Курс у Мінску не прызначаны толькі для католікаў, а будзе мець экуменічны характар, таму ў ім змогуць прыняць удзел прадстаўнікі розных канфесій, а таксама нявернікі, зацікаўленыя дабром сям’і.

5. Дадаткова курс забяспечвае атрыманне грунтоўных ведаў на тэму натуральных метадаў распазнавання плоднасці.

6. Курс працягваецца тры гады. Лекцыі будуць праходзіць адзін раз на месяц (увесь дзень суботы і ў нядзелю да абеду). На працягу года будзе дзевяць заняткаў (кастрычнік-чэрвень). Прапануецца ўдзел у канферэнцыях, рэкалекцыях і сімпозіумах на сямейную тэматыку.

Заняткі будуць праходзіць на базе “Caritas” Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі ў Ляскоўцы (Бараўляны). Ёсць магчымасць начлегу для прыезджых.

7. Заканчэнне курсу будзе для католікаў падставай для атрымання кананічнай місіі для працы з сем’ямі ў каталіцкіх сямейных кансультацыях.

***Адміністрацыя “Школы сямейнага жыцця”***
*Catholic.by*

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Ядвіга Кісель** *(Вілейка)*, **парафіяне з Дуброўна**, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Людміла Сушко** *(Докшыцы)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Яніна Рындзевіч** *(Валожын)*, **Марыя Рагіня** *(Стары Двор)*, **Лоўкіс Л.В.** *(Навасёлкі-2)*, **Мацкевіч С.А.** *(Ракуці)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Рудзінская Р.А.** *(Яцкавічы)*, **Гінько Я.В.** *(СтарыДвор)*, **Бэнэдзікта Баранава** *(Двор Пліна)*, **Фекцістава Л.М.** *(Камарова)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Соф’я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Марыя Пачкоўская** *(Савуткі)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **апостальства “Маргарытка” з Падсвілля**, **Алена Ліпская** *(Мосар)*, **Марыя Мурзіч** *(Мосар)*, **Эльжбета Калмук** *(Радзюкі)*, **Аліна Бука** *(Мосар)*, **Ларыса Фёдарава** *(Глыбокае)*, **Вераніка Курыловіч** *(Мосар)*, **Аліна Гірстун** *(Мосар)*, **Станіслава Носка** *(Мосар)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Зоф’я Ласоўская** *(Радзюкі)*, **Рэгіна Бука** *(Радзюкі)*, **Ірына Сіманенкава** *(Мосар)*, **Алена Кукліна** *(Баравуха)*, **Чэслава Яцына** *(Шаркаўшчына)*, **Яна Кукліна** *(Баравуха)*, **парафіяне з Бягомля**, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Лубінская Л.Ф.** *(Шэметава)*, **“Маці ў малітве”** *(Відзы)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсівлле)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***
***“Каталіцкага Весніка”***

# ПАЗНАВАЙКА

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл.

Дарагі сябра! Вельмі хутка распачнецца новы навучальны год, а разам з ім і катэхетычны. Мы віншуем цябе з гэтай падзеяй і жадаем табе поспехаў і Божага благаслаўлення! Спадзяёмся, што ты заўсёды сумленна наведваеш заняткі па рэлігіі.





## № 1.

### Бог вызваляе

Мы працягваем назіраць за гісторыяй Майсея і ізраільскага народу. Будзем разважаць над урыўкамі са Святога Пісання: Кніга Зыходу 8-14

1. Прачытай пра астатнія цуды, якія здзейсніў Майсей перад фараонам. І выберы з малюнкаў тыя, якія адпавядалі егіпецкім карам.



Выберы лічбу, якая адпавядала колькасці егіпецкіх караў.

А) 7  Б) 10  В) 12

## № 2.

Пасля апошняй самай страшнай кары фараон адпусціў ізраільскі народ, але сэрца фараона зноў ачарсцвела, і ён захацеў вярнуць ізраільцян, паслаўшы конныя калясніцы ўдагонку. Прачытай ўрывак з Кнігі Зыходу 14, 1-14

Дапамажы Майсею і яго народу хутчэй прайсці гэты шлях і вызваліцца.





## № 3.

3. Каб зразумець аб чым ідзе гаворка ў гэтым заданні прачытай урывак з Кнігі Зыходу 14, 15, 31. Злучы ўсе кропкі на малюнку і паглядзі, што сталася, калі ізраільцяне падышлі да мора.



## № 4.

Бог выратаваў свой народ. Слова "выратаванне" сустракаецца ў Бібліі аж 95 разоў! Паглядзі, у Каго Біблія падказвае шукаць нам выратаванне, Пс 36, 39:

| | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Ц | Р | А | Д | А | П | А | М | А | Г | А | Ц | Ь | М | Е | С | Ц | А |
| О | А | М | Ь | Д | З | С | Л | І | П | Ц | А | К | А | З | Д | Ц | Ь |
| Ц | Ь | Ш | А | Н | А | В | А | Ц | Ы | А | Д | Р | А | В | А | Т | Ь |
| Ц | Ь | К | Л | А | П | А | Ц | І | Ц | Ц | А | В | Е | Д | А | Ц | Ь |
| Ц | Р | Н | Д | А | П | А | М | А | Г | А | Ц | Ь | М | Е | Я | Н | А |
| О | Е | М | Ь | Д | З | Я | Л | І | Ц | Ц | А | К | А | З | А | П | Ь |
| Ц | Р | Ш | А | Н | А | В | А | Ц | Ь | А | Д | Д | А | В | А | Ц | Е |
| Д | Ь | К | Н | А | Я | А | Ц | І | К | Ц | А | В | Е | Д | А | Ц | М |

Выпішы літары з кожнага радка, якія пазначаны чырвоным колерам. Адказ запішы тут ______________________________
______________________________.

## Памаліся перад навучаннем

Для таго, каб добра вучыцца, кожны дзень маліся наступнымі словамі:

О Добры Божа, прасвятлі нас Духам Тваім Святым, які дае розум і ўмацоўвае духоўныя сілы, каб мы ўважліва спасцігалі ўсе навукі і раслі Табе, Творцу нашаму, на славу, бацькам і настаўнікам нашым на радасць і ўцеху, Касцёлу і Бацькаўшчыне на дабро.

**Амэн.**

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***


Самы маленькі пілігрым у Браславе. Ульяна Вавінская, 5 месяцаў, Глыбокае *(на фота з маці)*

# У Магілёве адбудзецца Ружанцовы кангрэс

***"Маліцеся, калі маеце час, увесь Ружанец штодзённа"***

Дарагія браты і сёстры! Ужо набліжаецца ружанцовы месяц – кастрычнік. З гэтай нагоды мы запрашаем перш за ўсё ўдзельнікаў ружанцовых колаў (асабліва з Віцебскай дыяцэзіі) на Ружанцовы кангрэс, які адбудзецца 5 кастрычніка ў Магілёве ў катэдральным касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Гэтак жа, як і на папярэдніх двух, мэтаю цяперашняга кангрэса, што арганізоўваецца айцамі-дамініканамі, будзе паглыбленне духоўнага і інтэлектуальнага развіцця асобаў, каторыя моляцца на ружанцы. Сёлета сустрэча пройдзе пад дэвізам: "Маліцеся, калі маеце час, увесь Ружанец штодзённа – і ў гадзіну сваёй смерці вы будзеце благаслаўляць той дзень і тую хвіліну, калі мне паверылі" [Святы Людовік Грыньён дэ Манфор; Трактат, 254].

## Праграма мерапрыемства:

**9:30 – 10:15** – Рэгістрацыя ўдзельнікаў.
**10:20** – Адкрыццё кангрэса.
**10:30 – 11:10** – Даклад айца Браніслава Дашкевіча "Паўната малітвы" айца Яцэка Варанецкага OP.
**11:15 – 11:55** – Даклад с. Юліі Бугай OP "Каментарый св. Тамаша Аквінскага да Божых запаведзяў".
*** Пытанні да дакладчыкаў, дыскусія, размова.
**12:15 – 13:00** – Ружанец перад Найсвяцейшым Сакрамантам.
**13:00 – 13:50** – Абед.
**14:00 – 14:40** – Даклад айца Марыуша Возьняка OP „Трактат аб сапраўдным ушанаванні Найсвяцейшай Панны Марыі", Св. Людовіка Грыньён дэ Манфор.
**14:45 – 15:10** – Даклад айца Марка Урбаноўскага OP, "Змест Евангелля ў малюнках бл. Фр. Анджэліка – дапамсога ў ружанцовай медытацыі".
*** Пытанні да дакладчыкаў, дыскусія, размова.
**15:30 – 15:55** – Перапынак.
**16:00 – 16:40** – Сведчанні аб пладах ружанцовай малітвы і папярэдніх кангрэсах.
**16:40** – Падрыхтоўка да літургіі.
**17:00** – Эўхарыстыя.

**Просім паведаміць пра свой удзел у кангрэсе да 24 верасня.** Рэгістрацыя абавязковая. Дастаткова патэлефанаваць або даслаць смс-паведамленнем інфармацыю пра сябе: імя, прозвішча, горад, назва парафіі, колькі чалавек. Таксама просім паінфармаваць, калі штосьці зменіцца і вы не прыедзеце на мерапрыемства. Для зарэгістраваных удзельнікаў кангрэса рыхтуецца шмат падарункаў. Мы чакаем вас і вашых блізкіх.

**Кантакты:** а. Раман, тэл. +375292919211; +48664570570 (schulzop@gmail.com) або а. Павел, тэл. +375299202007; 8(022)2412939.

**Адрас для карэспандэнцыі:** а. Раман Шульц OP, вул. Якубоўскага, 39/18, 212026, Магілёў.




# Ці магчыма зрабіць 2 ліпеня непрацоўным днём у Беларусі, каб людзі свабодна маглі наведваць Будслаўскі фэст?



- так, падтрымліваю гэтую ідэю; 487 адказаў
- не, не падтрымліваю гэтую ідэю; 14 адказаў
- мне абыякава; 11 адказаў
- іншы адказ у каментары. 13 адказаў

**Усяго – 525 адказаў**

## Каментары:

**Ян Коробов**
"У нас гэта немагчыма – не дазволяць"

**Miriam Wiszniewska**
"Хоць бы 1 лістапада зрабілі"

**Саша Иванов**
"Можно, но отработаете в субботу..."

**Юрый Панін**
"Прасцей фэст ладзіць 3 ліпеня"

**Dmitrij Belarus**
"Канешне магчыма. Толькі пытанне не туды. І лепш называць гэта агульнарэспубліканскай падзеяй, а не рэлігійным святам (бо могуць сказаць, што рэлігійных у нас ужо хапае)"

**Сяржук Серабро**
"Адны пілігрымы ў краіне, на заводах працаваць некаму! (с)"

**Pawel Jakuszewski**
"Лучше просто делать фест в первые выходные после 2-го"

**Людмила Подоляко**
"важнее 1 ноября"

**Евгений Дудкин**
"Так могуць папрасіць прадстаўнікі іншых канфесій. Варта лепш адбіць выходны на Дзяды, 02.11. Тады восенню усе (праваслаўныя і каталікі) з атэістамі наведаюць могілкі, прыбяруць ды ўспомняць продкаў."

**Светлана Шумская Кузьмичева**
"І ці шмат агульнарэспубліканскіх мерапрыемстваў ЮНЭСКА аднесла да нематэрыяльных сусветных каштоўнасцей? А гэты фэст уключылі."

# Ахвяруй на сайт Catholicnews.by, не выходзячы з дому

Дарагія сябры, ёсць магчымасць дапамагчы сайту Catholicnews.by фінансава.

Наш сайт абнаўляецца намаганнямі некалькіх чалавек. Рэдакцыя нясе транспартныя выдаткі, аплачвае паслугі хостынгу і інш. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай уласнага мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# – калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі;

*363*375295105172*5# – калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў;

*(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання).*

Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

Увага! Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

Больш падрабязную інфармацыю па правілах ахвяравання чытайце на сайце mts.by

Увага! Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС.

Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***



**Каталіцкі ВЕСНІК**
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і зверстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 4951

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2600 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 23.08.2019 г. у 10.28

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь